

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№8 (208) ТРАВЕНЬ 2016 ГОД


У ЦЭТРЫ ЎВАГІ

## ХТО ПАЕДЗЕ НА “НАРОДНАЕ ВЕЧА”?

**17 траўня прайшло абранне дэлегатаў ад рэгіёнаў і гарадоў Віцебскай вобласці на V Усебеларускі народны сход, у тым ліку і ў Шумілінскім раёне.**

Былі абраныя дэлегаты ў 8 раёнах вобласці: Віцебскім, Глыбоцкім, Лепельскім, Аршанскім, Пастаўскім, Расонскім, Чашніцкім і Шумілінскім. Вылучэнне кандыдатур, якія будуць прадстаўляць Віцебскую вобласць на Усебеларускім народным сходзе, завершылася 19 траўня. Усяго ад рэгіёна абрана 350 чалавек.

У раённым цэнтры культуры ў гарадскім пасёлку Шуміліна таксама прайшоў раённы сход упаўнаважаных Шумілінскага раёну па вылучэнні кандыдатур і па выбарах удзельнікаў пятага Усебеларускага Народнага сходу.

Дэлегатамі ад Шумілінскага раёна былі абраны амаль усе прадстаўнікі з начальства: кіраўнік раёна Аляксандр Снараў, старшыня райсавета Ірына Новікава, дырэктар раённай гімназіі-інтэрната Л. У. Маладзечкіна, дырэктар ААТ “Прыдзвінскі” У. І. Дзятлаў, адзін з рабочых: трактарыст-машыніст ААТ “Лаўжанскае” А. В. Барысевіч.

У Віцебску на галасаванні, якое прайшло ў канцэртнай зале «Віцебск», прысутнічала 750 ўпаўнаважаных — прадстаўнікоў працоўных калектываў, і грамадскіх арганізацый. Яны вызначылі толькі 109 чалавек, якія паедуць на “народнае веча” ад горада.

Менавіта яны былі абраны вызначаць на форуме план развіцця краіны на бліжэйшую пяцігодку, у тым ліку і датычна Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці .

Нагадаем, што сам форум мае адбыцца 22-23 чэрвеня 2016 года ў Мінску. На сходзе будзе разглядацца рэалізацыя Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011-2015 гады і асноўныя палажэнні Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2016-2020 гады.

**Алесь Шумскі**

СПОРТ

## ТРЫУМФ ЮНЫХ ФУТБАЛІСТАК ШУМІЛІНШЧЫНЫ

**На абласным этапе Пятага рэспубліканскага дзіцячага футбольнага турніру перамагла каманда дзяўчынак з Шумілінскага раёна.**

Пераможцы віцебскага абласнога этапу дзіцячага футбольнага турніру адправяцца на фінальныя сустрэчы ў Мінск.

У выніку бескампраміснай барацьбы сярод школьнікаў перамагла каманда Бешанковіцкага раёна, якая апынулася мацнейшай у вырашальным матчы дружыны Міёршчыны. Замкнулі тройку лідэраў навучэнцы Першамайскага раёну горада Віцебска.

Сярод дзяўчынак трыўмфатарамі стала каманда Шумілінскага раёна, другое месца ў прадстаўніц Кастрычніцкага раёна Віцебска, бронза ў актыве юных футбалістаў з Дуброўна.

Пяты рэспубліканскі турнір па футболе, арганізатарамі якога выступаюць Міністэрства адукацыі Беларусі і асацыяцыя «Беларуская федэрацыя футбола», сабраў больш за 44 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак па ўсёй Беларусі.

На працягу двух дзён абласны цэнтр прымаў рэгіянальныя паўфінальныя і фінальныя матчы. Усяго на палях СДЮШАР ФК "Віцебск" за перамогу змагаліся шаснаццаць каманд: тры з іх прадстаўлялі Віцебск (Першамайскі, Кастрычніцкі і Чыгуначны раёны), трынаццаць прыехалі з вобласці (Чашнікі, Сянно, Талачын, Гарадок, Бешанковічы, Орша, Шуміліна, Дуброўна, Ушачы , Мёры, Наваполацк, Полацк і Віцебскі раён).

У гэтым годзе значна павялічылася колькасць дзяўчынак, якія бяруць удзел у турніры.

Каманды-пераможцы 1 чэрвеня адправяцца ў Мінск, дзе ў сталічным футбольным манежы будуць змагацца з наймацнейшымі камандамі іншых абласцей. Пераможцы гэтага турніру змогуць правесці сумесную трэніроўку з гульцамі нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе, а таксама наведаць матч Беларусь - Францыя на стадыёне «Барысаў-Арэна».

Спонсар турніру - прадпрыемства «Кока-Кола Беўрыджыз Беларусь».

**Алесь Прыбярэжны**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

## КРЭАТЫЎНЫЯ ІДЭІ МАЙСТРЫХІ З ШУМІЛІНА

**Як упісаць традыцыйную беларускую саломку ў сучасны інтэр'ер? Сакрэтамі саломапляцення падзялілася метадыст Шумілінскага Дома рамёстваў Наталля Сцержанкова.**

Адкуль бяруцца крэатыўныя ідэі для неардынарных вырабаў? Адны нараджаюцца на аснове засвоеных майстрам спосабаў працы з прыродным матэрыялам, штуршком для іншых становяцца падказкі Інтэрнэту, а трэцімі дзеляцца людзі, якія хочуць зрабіць сваё жыллё ўтульным і непаўторным, прызналася метадыст Шумілінскага Дома рамёстваў Наталля Стержанкова.

Менавіта ў выніку пажаданняў заказчыкаў такой здаўна вядомы ў народзе абярэгам, як саламяны павук, змог ператварыцца ў абажур, а плецены кашалёк для грабянцоў – у аловачніцу.

Асновы саломапляцення майстрыха пачала засвойваць яшчэ ў дзяцінстве: у школьныя гады хадзіла ў гурток. Зрабіць гэта захапленне справай усяго жыцця, вядома, не планавала, але лёс спакваля выводзіў дзяўчыну на патрэбную дарогу. Калі Наталля паступіла ў швейнае вучылішча, то засумавала без любімай справы. І тут аказалася, што можна наведваць аб'яднанне па інтарэсам, дзе рабілі аплікацыі з саломкі. Так залацісты прыродны матэрыял зноў трапіў у рукі Наталлі Сцержанковой. Пасля завяршэння вучобы яна яшчэ нейкі час займалася ў гуртку ў Доме рамёстваў. А потым прыйшла туды працаваць. Было гэта 17 гадоў таму.

Зараз Наталля Аляксандраўна адзначае, што ў тыя гады майстрыха умела не надта многа. Але навучанне на курсах у абласным цэнтры і самаадукацыя дапамагалі развівацца. З падзякай майстрыха ўспамінае і старэйшых калег з іншых раёнаў, у якіх пераймала бясцэнны вопыт. Напрыклад, Тэрэза Худякова з Чашнікаў ў свой час падзялілася з ёй сакрэтамі нарыхтаванага матэрыялу.

– Тэрэза Альфонсаўна мне сказала, што лепш хай салома будзе зялёная, чым перастаялая. Пасля на акне пад прамянямі сонца яна святлее, – кажа Наталля Стержанкова. – Своечасова нарыхтаваная саломка мяккая, з ёй лягчэй працаваць. Дарэчы, я не прыхільніца таго, каб яе адбельваць або фарбаваць. Лічу, што пасля знікае натуральнасць.

У першую чаргу майстрыха захоўвае традыцыі стварэння так званых павукоў, якія з даўніх часоў «насялялі» вясковыя хаты. Калісьці такія саламяныя канструкцыі сустракаліся паўсюдна, а сёння іх не ў кожным рэгіёне можна знайсці. Першапачаткова яны служылі абярэгам. Кожны год на свята Божага Нараджэння стары павук спальваўся, каб пазбавіцца ад негатыву, назапашанага за год, а ў хаце з'яўляўся новы. Зараз жа такія вырабы паступова страчваюць сакральны сэнс, становячыся, хутчэй, элементам нацыянальнага каларыту. Але забываюць іх дарма. Бо нават над дзіцячай калыскай замест пластмасавых цацак, часцяком выраблены з невядомага матэрыялу, можна размясціць саламянага павучка. Сама Наталля Аляксандраўна, між іншым, так і рабіла. Паводле яе слоў, маленькая дачка з цікавасцю разглядала залацістую канструкцыю, якая вісела над ложкам і круцілася ад кожнага руху паветра.

Але не толькі на гэтыя мэты падыходзіць традыцыйны матэрыял. У мінулым годзе Наталля Сцержанкова паспрабавала стварыць з яго кампазіцыі, здольнай стаць альтэрнатывай офісным сувенірам ў стылі хай-тэк накшталт калыскі Ньютана. Штуршком было запрашэнне на конкурс народнай цацкі і лялькі «Забава-2015», які праходзіў у рамках фестывалю "Славянскі базар у Віцебску». Наталля Аляксандраўна паспрабавала зламаць стэрэатыпы і паказаць, што вядомы ў народзе павук можа быць не толькі абярэгам. З яе рук выйшлі своеасаблівыя міні-павучкі, прымацаваныя да жорсткага каркаса, для чаго праз саломку майстрыха прапусціла дрот. Нехта з членаў журы назваў навінкі мобілямі, слова аказалася якраз удалым. Цалкам магчыма, што пад такой назвай сувеніры ў перспектыве прыжывуцца. Пакуль жа яны застаюцца нестандартнымі і досыць нязвыклымі вырабамі, існуючымі толькі ў некалькіх асобніках. На конкурсе, дарэчы, мобілі цацкамі так і не прызналі, хаця саму задумку члены журы ацанілі і параілі надалей распрацоўваць ідэю.

– Калі вырабляць такія сувеніры на продаж, то прыйдзецца падумаць аб тым, каб фарбаваць саломку, дадаць некалькі кветак, – разважае Наталля Аляксандраўна. – Неабходна будзе ўлічваць не толькі традыцыі, але і пажаданні пакупнікоў, стыль памяшкання, для якога набываецца мобіль. Акрамя таго, спатрэбіцца ўпакоўка, паколькі канструкцыя даволі далікатная. І, безумоўна, спачатку трэба будзе тлумачыць, што гэта такое, нават некалькі асобнікаў падарыць, каб людзі паглядзелі, ацанілі, паспрабавалі. Думаю, што з часам такі выраб цалкам можа заняць сваю нішу.

Пакуль жа ў насельніцтва ў асноўным запатрабаваныя кветкі, званочкі і аплікацыі. Іх размяшчаюць на сценах або сталах для ўпрыгожвання памяшканняў. Акрамя таго, маленькія сувеніры купляюць у якасці падвесак у аўтамабілі. У апошні час добра разыходзяцца і вырабы (пано, вазы з бутэлек), пры вырабе якіх выкарыстоўваецца спалучэнне лёну і саломкі, адзначае Наталля Сцержанкова.

**vitvesti.by**

НАША ЗДАРОЎЕ

# РАСЦЕ КОЛЬКАСЦЬ ВІЧ-ІНФІЦЫРАВАНЫХ

**Паводле інфармацыі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі ў Шумілінскім раёне зарэгістравана 10 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі. Пры гэтым 8 чалавек, у тым ліку і адно дзіця, жывуць з ВІЧ-інфекцыяй.**

Безумоўна, жыхары раёна павінны ведаць рэальную, часам жахлівую інфармацыю аб смяротнай інфекцыі, якая невылечная.

На днях ўдзельнікі пасяджэння раённага міжведамаснага каардынацыйнага савета па прафілактыцы ВІЧ-інфекцыі і інфекцый, якія перадаюцца палавым шляхам, падвялі вынікі сваёй працы за апошнія пяць гадоў.

З інфармацыяй па выкананні Дзяржаўнай праграмы прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі за 2011-2015 гады выступіў галоўны ўрач раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Сяргей Конышев. Сяргей Алегавіч распавёў, што ўсе мерапрыемствы па рэалізацыі праграмы былі выкананы. Аднак, нягледзячы на намаганні нашых медыкаў, эпідэміялагічная сітуацыя ў раёне пагоршылася. Колькасць ВІЧ-інфіцыраваных людзей у Шумілінскім раёне вырасла да 10 выпадкаў, пры гэтым 8 чалавек, у тым ліку і адно дзіця, на дадзены момант жывуць з ВІЧ-інфекцыяй.

Дарэчы, па стане на 1 лютага 2016 г. у Беларусі зарэгістравана звыш 20 тысяч выпадкаў ВІЧ-інфекцыі. А колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ - ужо дасягнула 15 557. Пры гэтым паказчык распаўсюджанасці склаў 163,8 на 100 тысяч насельніцтва.

За студзень выяўлена 211 ВІЧ-інфіцыраваных (студзень 2015г. - 155). Паказчык захворвання склаў 2,2 на 100 тысяч насельніцтва (за аналагічны перыяд 2015г. - 1,6).

**Ян Вайтовіч**

АКЦЫЯ

# ЗАКЛАДЗЕНЫ САДЫ

**На Шумілiншчыне прайшла акцыя «Кветкі Вялікай Перамогі». Настаўнікі, школьнікі і бацькі разам з кіраўнікамі раёна пасадзілі яблыні каля Шумілінскай СШ № 2 і Слабадской школы. Падтрымалі акцыю Шумілінская ПМК-70 і ўсе ўстановы адукацыі раёна, якія набылі саджанцы яблынь.**

Пасадзіць яблыневы сад – гэта сімвал міру, будучага, як сімвал самога жыцця.

Кіраўнік раёна Аляксандр Снараўасабістасадзіўмаладыя дрэўцы разам з выпускніцамі школы Янай Герасімавай і Алінай Загвоздавай. У гэтай высакароднай справе ім дапамагаў першакласнік Андрэй Канстанцінаў.

Сімвалічны факт – яблыньку пасадзілі паблізу ад памятнага знака лётчыку Анатолю Дубасарскаму, які загінуў пры вызваленні Шуміліна.

На святочным мітынгу ў сваім выступленні старшыня райсавета Ірына Новікава заўважыла, што невыпадкова сад закладзены ў аграгарадку Слабада. Сіроцінская зямля найбольш пацярпела ў гады вайны. На тэрыторыі сельсавета знаходзяцца два буйнейшыя пахаванні — у Дворышчы і Тропіне. Ірына Мікалаеўна падзякавала школьнікам за тое, што яны даглядаюць брацкія магілкі.

Першыя ў сучаснай гісторыі раёна яблыневыя сады закладзены. Гэта важна, надзвычай сімвалічна. Гэты дзень, безумоўна застанецца ў гісторыі школ, якім выпаў гонар мець на сваім участку сады будучага, і ў гісторыі раёна наогул. Варта адзначыць, што пасаджаны яблынькі сучасных гатункаў, якія абяцаюць прыносіць шмат смачных сакавітых пладоў.

Падтрымалі акцыю Шумілінская ПМК-70 і ўсе ўстановы адукацыі раёна, якія набылі саджанцы яблынь.

**Мікалай Амбросаў**

ПРАПАГАНДА

# СУСТРЭЧЫ З ПРАЦОЎНЫМІ КАЛЕКТЫВАМІ

**Шумілінскія чыноўнікі наведалі шэраг працоўных калектываў раёна, дзе выказалі свае спадзяванні ад паляпшэнні сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў раёне.**

Вядома, што кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка вызначыў "асаблівасці" бягучага года. Паводле яго меркаванняў, гэта "пачатковы год чарговага пяцігадовага этапа развіцця беларускай дзяржавы". Ён павінен стаць пераломным у "пераадоленні негатыўных тэндэнцый у эканамічнай сферы". Да таго ж на Беларусі нібыта існуюць "пагрозы нашай эканамічнай бяспекі, якім мы павінны супрацьпаставіць арганізаванасць і ініцыятыву, мабілізацыю ўсіх рэсурсаў і ўменне эфектыўна гаспадарыць".

Па-другое, у Беларусі набліжаецца час парламенцкіх выбараў – а гэта таксама важнае палітычнае мерапрыемства.

Па-трэцяе, 2016 год прызначаны Годам культуры ў самым шырокім сэнсе.

Менавіта таму напрыканцы траўня створаныя з начальнікаў і кіраўнікоў прапагандысцкія групы аблвыканкама і райвыканкама зачасцілі ў працоўныя калектывы.

Група з прапагандыстаў вобласці і раёна наведала ААТ "Лаўжанскае". Кіраўнік раёна Аляксандр Снараў праінфармаваў працаўнікоў аб палажэнні "Паслання Прэзідэнта" і завостры ўвагу на асаблівасцях эканамічнага становішча. Аляксандр Іванавіч быў вымушаны прызнаць, што нягледзячы на высілкі ўлады, сітуацыя ў "Лаўжанскім" "далёкая ад ідэальнай". На яго думку, толькі агульная зацікаўленасць усіх работнікаў прадпрыемства можа даць станоўчы эфект і дазволіць павялічыць аб'ёмы прадукцыі. Ад гэтага затым палепшыцца фінансавы стан сельгаспрадпрыемства, будзе забяспечана своечасовая выплата заробкаў.

Прапагандысты завіталі і ў Обальскую сярэднюю школу. Падчас сустрэчы з настаўнікамі і работнікамі школы былі агучаны праблемы горпасёлка Обаль, які цалкам залежаць ад работы мясцовага керамічнага завода. Тут таксама ёсць надзея, што адзін нядаўна абноўлены цэх павінен надаць усяму прадпрыемству зрухі да лепшага, закласці аснову для далейшай мадэрнізацыі завода. У сваю чаргу старшыня Шумілінскага райвыканкама выказаў падзяку ўсім жыхарам Обалі, якія доўга цярпелі і чакалі ўвесь той час, пакуль ішла мадэрнізацыя завода.

Кіраўнік райсавета Ірына Новікава выступіла перад калектывам раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях. Работнікаў аддзела азнаёмілі з галоўнамі планамі уладаў на бліжэйшы час – гэта зніжэнне выдаткаў у вытворчасці і рэалізацыі ўсіх відаў прадукцыі на 25%, стварэнне новых працоўных месцаў. У 2016 годзе раённыя ўлады плануюць стварыць у раёне 22 новыя рабочыя месцы, у асноўным на прадпрыемствах прыватнага сектара эканомікі.

Варта адзначыць, што стварыць за цэлы год усяго толькі два дзесяткі для нашага раёна - гэта зусім сціплы паказчык.

**Ян Вайтовіч**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# КРАДЗЁЖ НА ЛЕЦІШЧЫ

**78 гадовая пенсіянерка заявіла ў міліцыю аб тым, што невядомы зламыснік пракраўся ў яе дачны домік і вынес маёмасць.**

22 траўня ў Шумілінскі РАУС звярнулася 78 гадовая пенсіянерка з паведамленнем аб крадзяжы. У перыяд з верасня 2015 года да 25 красавіка неўсталяваны зламыснік, выставіўшы аконную раму, пракраўся ў яе дачны дом. Злодзей скраў швейную машынку «Зінгер», электрапомпу, самавар, пасцельную бялізну і гаспадарчы інвентар.

Нанесена шкода на суму 2,4 мільенаў рублёў. Узбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 205 КК.

**Сяржук Крупскі**

# ПАНАЖОЎШЧЫНА СА СМЯРОТНЫМ ЗЫХОДАМ

**Сумесная п'янка вартаўніка і механізатара на працоўным месцы ў вёсцы Башні скончылася трагедыяй.**

У разгар пасяўных работ раніцай быў адпраўлены ў рэйс адзін з механізатараў сельгаспрадпрыемства «Агра-баравінка». Праўда, са шляху ён звярнуў і "заехаў у госці" на жывёлагадоўчы комплекс у вёсцы Башні, каб выпіць там з мясцовым вартаўніком.

Як потым высветлілася, сабутэльнікі відавочна перабралі ў сярэдзіне працоўнага дня – было выпіта трылітры таннага віннага напою на дваіх. Алкаголь і характар «сапраўднага мужыка» справакавалі спрэчку – хто з іх болей дакажа сваю "крутасць". Апошнім аргументам у гарачай дыскусіі стаў нож, якім вартаўнік і пырнуў трактарыста.

У рэанімацыйным аддзяленні раённай бальніцы пацярпелага выратаваць не ўдалося. Мужчына памёр ад пранікальнага ранення, а вартаўніка ўзялі пад арышт.

У цяперашні час узбуджана крымінальная справа па ч. 1 арт. 147 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў". Паводле следчага райаддзела Следчага камітэта Андрэя Селязнёва, вартаўніка пагражае пакаранне – пазбаўленне волі да васьмі гадоў.

Таксама ў ходзе следства будзе дадзена прававая ацэнка дзеянням кіраўніцтва сельгаспрадпрыемства. У прыватнасці, будзе ўсталяваны факт адсутнасці кантролю з боку загадчыцы жывёлагадоўчым комплексам за людзьмі і тэхнікай. Несумненна, што бескантрольнасць прывяла да злачынства.

**Сяржук Крупскі**

ЭКАНОМІКА

# НЕДАПЛАЦІЛІ ПАДАТКІ

**Адно сельскагаспадарчае прадпрыемства Шумі-ліншчыны завінавацілася ў бюджэт болей як за тры мільярды беларускіх рублёў.**

Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Віцебскай вобласці па Шумілінскаму раёну па выніках планавай праверкі сельскагаспадарчага прадпрыемства прад'явіла да выплаты ў бюджэт плацяжоў на агульную суму 3,1 млрд, у тым ліку пені - 0,6 млрд.

Пры гэтым асноўным парушэннем з'явілася неправамернае прыняцце прадпрыемствам да вылічэння падатку на дададную вартасць (падатак выплачваўся пры набыцці тавараў за кошт бязвыплатна атрыманых сродкаў бюджэту).

Апроч таго, інспектары ўстанавілі, што прадпрыемства несвоечасова пералічвала падаходны падатак з заработнай платы - плацельшчыку даналічана пеня па падаходным падатку ў суме 0,1 мільярд рублёў.

**У. Прылуцкі**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДВА СУСВЕТЫ — ДВА ЛЁСЫ

**Мне давялося зноў перасекчы Атлантычны акіян, бо нарадзіўся чарговы амерыканскі ўнук. Пяць гадоў таму я ўжо меў магчымасць на асабістым досведзе пераканацца, што значыць жыць ва ўмовах капіталізму.**

Два сусветы — два лёсы. І з гэтым не паспрачаешся. «Нарадзілася дзіця, — тут я цытую фрагмент з інаўгурацыйнай прамовы адзінага палітыка (АП), — да трох гадоў адзін з бацькоў мае магчымасць сядзець з малым, выхоўваць яго, атрымліваць бясплатныя лекі».

Гэта ў нас. А ў Амерыцы дародавага адпачынку няма наогул, а пасля родаў — шэсць тыдняў. Круціся як хочаш. Вось і лётае дзед-пенсіянер праз акіян «за кошт запрашаючага боку».

Натуральна, пасля вяртання сябры і знаёмыя задаюць стандартнае пытанне: «Ну як там Амерыка?» Але адкуль я ведаю, як там яна? Я тры месяцы прасядзеў у чатырох сценах. Далёка не кожны тыдзень мяне вывозілі ў бліжэйшы гандлёвы цэнтр, і раз на месяц мы ездзілі «праветрыцца» ў адзін з бліжэйшых гарадоў. З такім досведам наскрэсці матэрыял на «Азбуку паліталогіі» не так проста. Аднак я паспрабую.

**4 ахоўнікі замест 150**

Адна з вандровак была звязана з паездкай у Вашынгтон на Нацыянальны фестываль квітнення сакуры (National Cherry Blossom Festival). У цэнтры амерыканскай сталіцы высаджаны тры тысячы японскіх вішань. Дрэвам больш за сто гадоў. У 1912 годзе іх падарыў гораду мэр Токіа.

Выдатнае надвор'е. Тысячы людзей гулялі пад квітнеючымі дрэвамі. Шпіль манумента Вашынгтона на фоне Белага дома і... ніводнага паліцэйскага, ніводнага! І гэта за пяць гадзін пікніка! А за тры месяцы «жыўцом» я бачыў паліцыянтаў толькі адзін раз. У кафэ гандлёвага цэнтра яны зайшлі папіць кавы.

Яшчэ адна дэталь: адсутнасць платоў перад індывідуальнымі дамамі. Задні двор — не лічым. Але страх перад рабаўнікамі тут ні пры чым. У раёне, у якім я жыў, усе задняя двары выходзілі ў лес, а там поўна аленяў і іншай жыўнасці. Акрамя таго многія домаўладальнікі трымаюць сабак. Наяўнасць плоту ў такіх выпадках абавязковая.

Але ад прыватнага прыкладу падымуся да абагульнення, запазычанага ў інтэрнэце з артыкула «Чаму трактарны завод застанецца ў Канадзе»: «У мэтах аховы і прадухілення парушэнняў правапарадку на тэрыторыі завода ў Растове-на-Доне прадпрыемства вымушана ўтрымліваць вялікі штат аховы (каля 150 чалавек). Выдаткі ўключаюць у сябе заработную плату, уніформу, страхоўку, утрыманне службовых памяшканняў, звязаныя падаткі. Штат аховы на заводзе ў Канадзе складае 4 чалавекі, а іх функцыі абмяжоўваюцца кантролем прапускной сістэмы і, у выпадку неабходнасці, камунікацыямі з органамі правапарадку».

Два сусветы — два лёсы. І гэта толькі адзін прыклад з артыкула. Мне, уладальніку запісу «вартаўнік» у працоўнай кніжцы, праблема з ахоўнікамі асабліва блізкі. Як-ніяк год ахоўваў будоўлю побач з плошчай Бангалор у Мінску. Кругласутачная ахова. Высокі плот. Два сабакі. Без гэтай тройцы ўсё, што можна вынесці і вывезці, было б вынесена і вывезена. І гэтай шаноўнай справай займаліся б не прафесійныя рабаўнікі, а жыхары суседніх шматпавярховікаў.

Здаецца, усё насельніцтва краіны можна падзяліць на дзве групы: на тых, хто крадзе, і на тых, хто не крадзе. Да другой групы належаць, галоўным чынам, грамадзяне, папросту пазбаўленыя ў сілу розных абставін магчымасці красці.

І не трэба вінаваціць мяне ў імкненні ўзвесці паклёп на беларускі народ. Свежы прыклад. Камітэт дзяржкантролю завяршыў праверку сістэмы ЖКГ. Пра гэта ў эфіры тэлеканала АНТ заявіў старшыня камітэта Леанід Анфімаў: «На эмоцыях я б мог цяпер арыштаваць палову




складу Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі...»

Работнікі міністэрства. Сур'ёзныя сталыя людзі. А па кожнаму другому турма плача! Што ж тады казаць пра жыхароў звычайных шматпавярховікаў...

**Чаго не хапае?**

У канцы красавіка ў садах Дзюпона расквітнелі цюльпаны. Час, які я выдаткаваў на іх сузіранне, быў узнагароджаны магчымасцю ўсвядоміць яшчэ адно з азбукавых адрозненняў паміж двума сусветамі. Уявіце невялікі фантан ля ўваходу ў аранжарэю. Падбягаюць два хлопчыкі і дзяўчынка гадоў 4–5. Кладуцца на мармуровую падлогу і пачынаюць далонькамі стукаць па вадзе. Пырскі ляцяць ва ўсе бакі. Нагуляўшыся, дзеці ўстаюць. На дзяўчынцы ружовыя нагавічкі. Яны, натуральна, мокрыя і брудныя. Як на гэта рэагуе мама? НІЯК!

Побач з маім домам у Мінску — альтанка, каля якой у добрае надвор'е тусуюцца маладыя жанчыны з малымі. Думаю, чытачам не трэба тлумачыць, якія чуюцца крыкі, калі малое з разбегу падае на асфальт. Як сказаў бы ў такім выпадку АП, «гвалтам крычаць».

А ў логаве імперыялізму, дзе чалавек чалавеку воўк, такое немагчыма ў прынцыпе. Вось на травяністым схіле куляюцца дзеці. На іх маечкі і джынсы. Але падышла дзяўчынка, разадзетая як Мальвіна, і далучылася да кампаніі. Бацькі сядзяць побач і пра штосьці спакойна размаўляюць. Карункавая сукенка — не падстава, каб адмовіць дзіцяці ў задавальненні пакатацца па траве.

Два сусветы — два лёсы, дзве стратэгіі выжывання. Адна абапіраецца пераважна на заах-вочванне. Іншая бярэ за аснову рэпрэсіі. «Гісторыя паказвае нам, — тлумачыць культуролаг Ігар Якавенка, — што тыя краіны, якія робяць стаўку на заахвочванне, развіваюцца дынамічна. А тыя грамадствы, што трымаюцца за рэпрэсіі, прайграюць».

Да якога сусвету належыць Беларусь, здаецца, вызначыць нескладана. Чытачам жа, у якіх паўстануць з гэтым цяжкасці, рэкамендую звярнуцца да выступленняў АП. Адкрываю ў сваёй кампутарнай бібліятэцы файл «Парадак і дысцыпліна»: «Я не разумею, чаго не хапае? Угнаенні ёсць, насенне ёсць. Усё ёсць. Вёска ўжо кажа, што тэхнікі не трэба больш. Але патрэбны парадак (выдзелена. — С.Н.)».

Парадак патрэбны, таму што яго няма. І за два дзесяцігоддзі актыўнага будаўніцтва беларускай мадэлі дамагчыся яго так і не атрымалася. Тут варта прыгадаць знакамітую характарыстыку айчыннай рэальнасці з «Аповесці мінулых гадоў»: «Земля наша велика и обильна, а порядка в ней нет».

Аднак гэта скажоны варыянт . У першакрыніцы — Іпацьеўскім летапісе — гаварылася: «…земля наша велика и обильна, а наряда в ней нет». Слова «наряд» з'яўляецца аднакарэнным са састарэлым словам «нарядчик» і захавалася ў сучаснай рускай мове ў выразах накшталт «наряд на работу». Азначала ж яно «распараджэнне», «кіраўніцтва». Акрамя таго, існуюць і розначытанні гэтай фразы ў розных летапісах. Так, у Цвярскім летапісе гэтая фраза гучыць наступным чынам: «Вся земля наша добра есть и велика изобильна всем а нарядникъ в ней несть». Тут ужо гаворка ідзе пра «нарядника» — пра кіраўніка.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**

БУДУЧЫНЯ

# «НАС ЖДУТ ВРЕМЕНА, ПОДОБНЫЕ КРИЗИСУ ПОСЛЕ РАЗВАЛА СОВЕТСКОГО СОЮЗА»

**В белорусском бюджете практически исчерпаны возможности для повышения зарплат, пенсий, пособий и стипендий, заявляют в Министерстве финансов. Экономист Ярослав Романчук полагает, что нас ждут времена, подобные кризису после развала Советского союза.**

**Резервы исчерпаны**

В Беларуси практически исчерпаны резервы для наращивания социальных обязательств. Об этом заявил первый заместитель министра финансов Максим Ермолович в интервью, которое опубликовано в майском номере журнала «Финансы, учет, аудит», издаваемого Минфином.

«Учитывая, что Беларусь остается социально ориентированным государством, большая часть расходов бюджета традиционно направляется на финансирование соответствующих статей, связанных с поддержкой населения. В данном случае корректно говорить не только об образовании, здравоохранении, культуре, спорте, но и транспортной отрасли, ЖКХ, сельском хозяйстве. Таким образом, в республике делается очень многое для сохранения на приемлемом уровне цен на товары и услуги наших граждан», — сказал Максим Ермолович.

При этом, подчеркнул он, данная работа проводится за счет бюджета. «В подобной системе нет ничего удивительного. Иных источников финансирования вышеназванных направлений еще не придумали ни в одной стране мира», — сказал первый замминистра финансов.

Однако, отметил Ермолович, свои желания нужно соизмерять с имеющимися возможностями: «К сожалению, в Беларуси для наращивания социальных обязательств резервы практически исчерпаны. Приступать в ближайшее время к реализации новых амбициозных задач вряд ли имеем смысл, так как они не подкреплены реальным финансированием».

Среди прочего, подчеркнул он, ограничения коснутся темпов повышения заработных плат, а также увеличения пенсий, пособий, стипендий. «Существенно наращивать такие затраты проблематично», — сказал первый замминистра финансов.

**Тяжелые времена**

Руководитель Научно-исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук считает, что власти идут именно на сокращение социальных расходов, потому что лобби крупного бизнеса в сфере промышленности и сельского хозяйства сильнее, чем давление населения.

«Власти уступают нажиму консолидированных и достаточно активных лоббистов, потому что они представляют информацию так, что от них властям будет больше проблем, чем от затягивания поясов населением. И сельское хозяйство, и промышленность продолжают получать непомерную поддержку, грубо нарушая публичные требования Александра Лукашенко не давать деньги убыточным и бесперспективным проектам. Население же, поскольку не имеет своего прямого представительства в органах государственного управления, будет нести увеличенное бремя нагрузки», — отмечает экономист.

В будущем, по его мнению, населению стоит готовиться к максимальной зарплате в 200 долларов и пенсии меньше 100 долларов. При этом цены и безработица будут расти, а курс рубля в условиях валютного дефицита останется нестабильным.

«Беларусь, по сути дела, вступает в полосу развала Советского союза 2.0. Мы впервые столкнулись с квадро-кризисом: структурным, системным, конъюнктурным и управленческим. Вдальнейшем он будет только усугубляться», — полагает Ярослав Романчук.

*(сокращено)*

**Александр Ярошевич**
**БЕЛАПАН**

ВЫЗВАЛЕННЕ

# «РОССИЯНАМ НЕЧЕГО БОЯТЬСЯ, С КОЛЕН НАДО ВСТАВАТЬ»

**Президент Украины Петр Порошенко вручил летчице Надежде Савченко орден «Золотая Звезда» — «за проявленное мужество и жертвенное служение украинскому народу».**

**Петр Порошенко в твиттере: «Наша Надя уже на украинской земле»**

Об этом в своем твиттере написал президент Украины Петр Порошенко: «Наша Надя уже на украинской земле. Рад поздравить ее с возвращением! Поздравляю украинцев и весь мир с нашей Победой! Слава Богу - в этот раз все удалось. Продолжаем борьбу за освобождение всех украинских заложников. Благодарю всех, кто помогал мне приближать сегодняшнюю победу. Долгие 709 дней плена наконец закончились».

Самолет с россиянами Александром Александровым и Евгением Ерофеевым приземлился во Внуково. Пресс-секретарь российского президента Дмитрий Песков подтвердил: самолет ГТК «Россия» доставил их в Москву.

**«Назло им я выжила»**

Прокричала Надежда в аэропорту журналистам.

— Я готова умереть каждую секунду за то, чтобы мы могли жить так, как мы хотим. Мы должны бороться за то, чтобы все остальные тоже оказались на свободе! Спасибо всем, и даже тем, кто желал мне зла - благодаря их словам я выжила! - сказала Савченко, сообщает Би-би-си.

В своем выступлении в аэропорту она также попросила прощения у тех, кто погиб в украинской АТО или попал в плен:

— Герои Украины не должны умирать, потому что очень выгодно, когда герои мертвы.

После эмоционального выступления, продолжавшегося несколько минут, она сказала журналистам: «Уважайте личное пространство человека. Я отвыкла от свободы, потому прошу прощения за резкость».

— Это реально приехал сильный лидер домой, - заявила Юлия Тимошенко журналистам после того, как пообщалась с Савченко.

По словам главы партии, Савченко «готова немедленно, уже сегодня, начать работать на Украину».

- Она мне задала первый вопрос: «когда приступать к работе»? Она сказала: «Мне уже сейчас ехать на работу?». Она спросила, где ей завтра быть, куда завтра приходить и приступать к работе, - добавила лидер фракции.

Тимошенко также подчеркнула, что готова всячески помогать Савченко в полной мере реализовать свой «уникальный потенциал и уникальную моральность и способность служить Украине».

Тем временем журналисты «Украинских новостей» обратили внимание на то, что Савченко отказалась принять букет цветов от Тимошенко.

— Лучше отдайте цветы моей маме, - объяснила украинская военнослужащая, добавив, что цветы ей не нужны.

Президент Украины Петр Порошенко заявил о намерении вернуть Донбасс и Крым.

— Как мы вернули Надежду, так вернем Донбасс и Крым, — заявил Порошенко.

**Порошенко вручил Савченко орден «Золотая Звезда»**

Как сообщает «Газета.Ru», Порошенко вручил Надежде Савченко орден «Золотая Звезда» — знак отличия Героя Украины — «за проявленное мужество и жертвенное служение украинскому народу». Матери Савченко он вручил огромный букет.

В свою очередь Савченко пообещала сделать все, чтобы минские соглашения выполнялись.

— Украина имеет право быть, несмотря на чью-то больную душу или голову, — заявила она на пресс-конференции.

— Я вам хочу сказать... в первую очередь передать привет россиянам и сказать, что нечего бояться, с колен надо вставать. Я понимаю, что не та страна, в которой с колен встать легко, но если они хотят так же жить в согласии, как и мы, то им нужно вставать с колен, а нам надо не дать им прийти сюда, - заявила Савченко во время совместной пресс-конференции с президентом Украины Петром Порошенко.

Она отметила, что будет работать, чтобы каждый пленный украинец вернулся живой, и чтобы Украина была сильной, а народ не был забыт, сообщает "УНИАН".

СУДОВАЯ СПРАВА

# "НЕ ПРЕДСТАВЛЯЮ, ЗАЧЕМ ОБЕЗГЛАВЛИВАЛИ НАШЕ ПРЕДПРИЯТИЕ"

**23 мая в Верховном суде продолжились прения по делу сенатора и гендиректора Витебской бройлерной птицефабрики Анны Шарейко и еще шести обвиняемых. Стороны обвинения и защиты обменялись репликами, а обвиняемые выступили с последним словом.**

Гособвинитель Анатолий Метельский отметил, что из обвинения исключили только совершение преступления в группе и материальный ущерб, остальное обвинение поддержано в полном объеме — создание Норкусом цепочек подконтрольных ему фирм для получения дохода, личная заинтересованность Норкуса и Шарейко в результатах конкурсов и т.д. Обвинение также обратило внимание на свидетельства юристов Протасовицкого и Амельчени, которые поясняли, где были нарушения членов комиссии при проведении переговоров.

Адвокаты, по мнению прокурора, пытались опорочить показания юристов, называя Протасовицкого теоретиком. «Эти доводы считаю несостоятельными, он высококвалифицированный юрист», — заявил гособвинитель.

Адвокат Шарейко Татьяна Сычева сказала о том, что реплика обвинения повергает защиту в шок. Речь о словах, что прокурор полностью подтверждает обвинение, но отказывается от «группы» и особо крупного ущерба. Это, по мнению защитника, создает состав преступления, не предусмотренного законом. Переквалифицируя статью на часть 2, а не 3 (группа по предварительному сговору), надо понимать, что каждое обвинение должно выстраиваться самостоятельно — ведь группы нет. «Исходя из существующего обвинения, нельзя понять, кто и в чем обвиняется, пока вменяется все и всем», — отметила адвокат.

При этом абсолютно непонятно, что такое общественный интерес, как его подорвала Шарейко.

Комментируя заявления юриста Протасовицкого, Татьяна Сычева отметила, что он «такой же адвокат, как и мы, нас здесь 7 человек, и у некоторых тоже есть степень».

«Он ничем не лучше других юристов. Мнения юристов не имеют никакого отношения к должностным действиям обвиняемых. Если нет ущерба, а ущерба фабрика не понесла, значит существенного вреда от ее деятельности быть не может», — считает защита.

Защитник Норкуса Ирина Карасевич обратила внимание на то, что адвокату даже не дали ознакомиться с письменным носителем нового обвинения: «Люди не знают, в чем обвиняются. Прошу оправдать, только такой приговор может восстановить попранную справедливость».

Адвокат Михаила Разживина Борис Лесковский обратил внимание, что из всех контрактов с «Русском-Р» обвиняемым вменяется в вину 5, а контрактов более 40. «То есть это не может считаться продолжаемым преступлением. А тогда обвинение должно конкретизировать ущерб и вред по каждому конкретному эпизоду», — отметил защитник.

Затем в суде выступили обвиняемые с последним словом.

Анна Шарейко подчеркнула, что работала на птицефабрике со студенческой скамьи, всегда трудилась добросовестно и работала с позиции государственного человека: «Никакие личные отношения не могли повлиять на мое отношение к фабрике».

Она отметила, что неоспорим факт того, что при ней фабрика стала одним из самых успешных предприятий страны. «Предприятие развивалось, наращивало объемы, выполняло доведенные показатели, никогда не имело долгов перед бюджетом, по зарплате и за энергоносители», — подчеркнула бывший руководитель фабрики.

Шарейко отметила, что не хочет носить пятно преступника, которое «не заслужила никоим образом». Она также подчеркнула, что хочет понять, чем руководствовались представители правоохранительных органов, обезглавливая крупное многопрофильное предприятие в разгар реализации стратегических для предприятий и отрасли проектов, в том числе речь идет о строительстве мощного комбикормового завода, который в данный момент находится в стадии пуско-наладки, хотя ввести в строй его планировали еще в конце 2014 года.

Более 120 млрд рублей фабрикой потеряно, констатировала гендиректор фабрики. Потребовалось время для того, чтобы новому руководству вникнуть в проект, и банки стали иначе относиться к некогда благополучному заемщику. Потери фабрики за прошлый год Шарейко оценила в 110 млрд рублей. Потери фабрики за период сидения в СИЗО ключевых специалистов, по мнению Шарейко, достигают 230 млрд рублей.

Заместитель Анны Шарейко Надежда Семченкова не признала себя полностью виновной и напомнила, что уже изложила свою позицию в двух обращениях к президенту.

Она рассказала, что в 2013 году на фабрику приняли на работу сотрудника правоохранительных органов под прикрытием, который позже приходил в СИЗО, утверждая, что коллектив обвиняемых не поддерживает. Этот сотрудник, считает Семченкова, подрывал работу предприятия, распространял ложные слухи об администрации предприятия, но не добился того, чтобы коллектив поменял мнение о своих руководителях. «Анонимка, положенная в основу обвинения, это письмо, написанное Министерством внутренних дел, что потребовалось для заведения уголовного дела», — уверена обвиняемая.

Шесть обвиняемых попросили их оправдать. Седьмой, признавший свою вину, попросил вынести «объективный приговор».

Суд удалился в совещательную комнату. Приговор будет вынесен в 10 часов 10 июня.

tut.by

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.05.2016 у 16.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.